# 3 ліпеня – Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Са святам!

Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

4 ліпеня 1998 года
СУБОТА
№ 50–51 (130–131)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 2000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

### За косы і граблі ўзяліся гараджане...

Як і ў даўнія савецкія часы, зноў гараджане мясцовымі ўладамі заклікаены дапамагаць калгасам у нарыхтоўцы кармоў. Зноў кожнаму працоўнаму калектыву даведзены заданні. Зноў адрываюць людзей ад сваёй асноўнай работы і пасылаюць у вёску, каб падымаць сельскую гаспадарку.

Чым закончылася вядомая кампанія па нарыхтоўцы кармоў гараджанамі ў мінулыя гады, мы добра ўжо ведаем. Не можа быць плён добрым, калі боты пачынае шыць хлебапёк... Сённяшнія калгасы ледзь зводзяць канцы з канцамі: зарплата калгаснікаў самая нізкая і выплочваецца з вялікімі затрымкамі, тэхніка дажывае свае дні, а купіць новую няма за што; на банкаўскіх рахунках — ні рубля, бо данімаюць суцэльныя даўгі і даўгі. Нават урадавыя крэдыты пачль што не могуць паправіць справы.

Ці дапамогуць сёлета гараджане з косамі і граблямі забяспечыць калгасную жывёлу кармамі на ўсю зіму? Мо гараджане цяпер спраўнейшыя ды жывёла менш пераборлівая...

### Чарнічная ліхаманка

З надыходам часу паспявання чарніц значна ажывілася жыццё вёсак раена. Чарніцы, як вядома, найбольш распаўсюджаная расліна нашых лясоў. Вясковыя магазіны раёна, Івацэвіцкі каапнарыхтпрам сёння закупаюць чарніцы і грыбы-лісічкі. Цана — 25.000 рублёў за кілаграм чорных ягад, 50.000 рублёў за кілаграм лісічак.

Ці актыўна здае насельніцтва чарніцы? Пытанне рытарычнае. Дастатткова сказаць, што за два дні прыёму ў такой сярэдняй вёсцы як Магіліцы было здадзена каля паўтоны чарніцаў. "Не хапае скрыняў для захоўвання ягад, — скардзяцца жыхары гэтай вёскі. — Каб здаць ягады, у некаторыя дні прыходзіцца займаць чаргу з шасці гадзін ранку".

Не менш рытарычным выглядае пытанне — чаму ж актыўна вяскоўцы займаюцца зборам і здачай ягад? Наступіла пара, калі можна някепска зарабіць і калі твой заробак залежыць ад цябе самога. Увогуле, сітуацыя паказвае, што народ сёння больш даверае, спадзяецца і просіць у прыроды, Бога, чым у канкрэтнай улады, якая здольная толькі на абяцанкі. Дарэчы, чарніцы з'явіліся ў продажы і ў магазінах Івацэвіч. У "Чабарку" кілаграм чарніц каштуе 30.000 рублёў.

### Хочаш здаць бутэльку — здзяры наклейку

З 15 чэрвеня магазін Брэсцкага лікёра-гарэлачнага завода, што ў Івацэвічах па вуліцы 60 год Кастрычніка, прымае бутэлькі з-пад гарэлкі толькі без этыкетак.

Такія дзеянні — не вынік асабістай ініцыятывы работнікаў гэтага магазіна. Сёлета Міністэрства гандлю распрацавала палажэнне, згодна з якім уся шклатара з-пад лікёра-гарэлачнай прадукцыі павінна быць ачышчана ад наклеек. Такія меры прадыктаваны абаронай спажыўцоў ад падробак алкагольнай прадукцыі з галаграфічнымі знакамі. Справа ў тым, што прайдзісветы скупліваюць пустую шклатару, на якой заводскім спосабам прыклеены наклейкі, і напаўняюць іх сурагатам уласнай вытворчасці. Ці будзе з усяго гэтага нейкі плён — пакажа час, але ж спрабаваць засцерагчыся трэба...

### Набегі на цяпліцы

У міліцэйскіх зводках гэтыя факты крадзяжу не значацца. Чаму? Ды проста большасць уладальнікаў цяпліц не звяртаецца па дапамогу ў міліцыю, а абыходзяцца, так сказаць, сваімі сіламі. На днях адзін з мясцовых злодзеяў захацеў агуркоў не проста, каб пакаштаваць самому, а меў іншую мэту — захапіў нават з сабой мяшок. Але напоўніць яго не паспеў. Гаспадары злавілі злодзея з крадзенымі агуркамі. "Суд" быў на месцы. Наўрад ці хто пазайздросціць таму няўдачніку.

Хто яшчэ адважыцца зрабіць вылазку ў чужую цяпліцу?

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*НИНА. По гороскопу — Скорпион. Любимый певец — Влад Сташевский, а любимый фильм "С любимыми не расставайтесь". В жизни ценю доброту, красоту и свободу, дорожу дружбой. Сама я веселый и жизнерадостный человек. Очень люблю лето и хочу, как поет А. Пугачева, "чтобы оно никогда не кончалось". Люблю читать, танцевать. Главная проблема — как можно лучше закончить среднюю школу.*

БАРАНАВІЧЫ

### З'явіўся долар у касе лясгаса

Сапраўднае бедства абрынулася на лясы Баранавіцкага раёна — масавае ўсыханне елак. Пакуль вучоныя шукаюць прычыну і паратунак, загінулі цэлыя масівы.

Здавалася, каму патрэбны засохлыя елкі, калі яны не ідуць на дрэваапрацоўку? Аказваецца, патрэбны. Тры цэлюлёзна-папяровыя камбінаты Калінінградскай вобласці (Расія) бяруць сухастой і вырабляюць з яго высокагатунковую паперу. Баранавіцкі лясгас адпраўляе ім штомесячна 50 вагонаў пашкоджанай драўніны — 2,5 тысячы кубічных метраў. Расіяне расплачваюцца за атрыманую сыравіну валютай — кожны месяц лясгас атрымлівае ад партнёраў 22 тысячы долараў. Маючы немалыя сумы, работнікі лесу паспяхова займаюцца аднаўленнем пашкоджаных масіваў, набываюць тэхніку, разгортваюць уласную лесаперапрацоўчую вытворчасць.

### У пажарных свой аркестр

З гісторыі мы ведаем, што да рэвалюцыі каманда пажарных любога правінцыяльнага горада, якая паважала сябе, мела свой духавы аркестр. У Баранавічах рашылі, што гэтая традыцыя заслугоўвае таго, каб яе адрадзілі, і рызыкнулі стварыць у сябе аркестр. Цяпер не шкадуюць — атрымаўся моцны самабытны калектыў. На нядаўнім другім аглядзе-конкурсе мастацкай самадзейнасці сярод супрацоўнікаў ваенізаванай пажарнай службы вобласці ён стаў сапраўдным упрыгажэннем. А спявак, камандзір аддзялення Баранавіцкай часці Юрый Чыстапольскі пасля паспяховага выступлення на абласной сцэне будзе выступаць на сцэне рэспубліканскай.

### Паспяховыя гастролі

Найлепшых слоў заслугоўвае дзяржаўны тэатр сатыры на Васільеўскім востраве Санкт-Пецярбурга, чые гастролі паспяхова прайшлі ў Баранавічах. Спектаклі "Жаніцьба" М. Гогаля, "Васа Жалязнова" М. Горкага, "Прыгоды ката Леапольда" А. Хайта і іншыя збіралі сотні аматараў тэатра.

Мастацтва сапраўды зблiжае народы і сцірае ўсе межы, узведзеныя паміж дзяржавамі.

БЯРОЗА

### Пры неаплаце да 25-га...

З раніцы 26 чэрвеня змоўклі тэлефоны ў падраздзяленнях камбіната будаўнічых матэрыялаў. Такі ж лёс напаткаў і некаторыя іншыя прадпрыемствы, і жыхароў многіх кватэраў Бярозы. Такім чынам раённы вузел электрасувязі змагаецца (і даволі эфектыўна) з тымі, хто своечасова не разлічваецца за тэлефонныя паслугі. Ужо даўно ў квітках за аплату значыцца фраза: "Пры неаплаце да 25... (далей назва месяца) тэлефон будзе адключаны".

Але першы раз рэальна сувязісты спраўдзілі сваю пагрозу месяц таму, 3 чэрвеня г. г. Паўторнае падключэнне ўжо каштуе пэўную суму грошай. У гэтым месяцы адключылі тэлефоны адразу, 26 чэрвеня, прывучаючы такім чынам спажыўцоў своечасова разлічвацца за паслугі і папаўняючы сваю касу за паўторныя падключэнні. Дарэчы, дата 25 стаіць як апошні дзень аплаты і ў дагаворах паміж вузлом сувязі і спажыўцом.

### Вырас корпус

Дзяржаўная камісія падпісала акт аб здачы ў эксплуатацыю палатнага корпуса Бярозаўскага РТМА на 120 ложкаў. Тут размесцяцца тэрапеўтычнае і пульманалагічнае аддзяленні. Пяціпавярховы будынак злучаны галерэяй з паліклінікай і стацыянарам.

Сёлета на аддзелачныя работы затрачана з рэспубліканскага бюджэту 6 мільярдаў 750 мільёнаў рублёў. Будаўнікі ПМК-4, аддзелачнікі СПМК-22, СПМК-9 і іншых субпадрадных арганізацый прымянілі сучасныя матэрыялы з выкарыстаннем імпартных шпалераў і абліцовачнай пліткі. У палатах — драўляная падлога, арыгінальныя свяцільні, светлыя шпалеры.

Вясной зроблена добраўпарадкаванне тэрыторыі: пасаджаны дрэвы і кусты, абсталявана пляцоўка для аўтатранспарту, пастаўлены лаўкі.

У сучасны момант гэтая новабудоўля магла бы стаць даўгабудам, калі б не ініцыятыва раённай улады, якая настойліва і цярпліва даводзіла будаўніцтва да лагічнага канца.

## "Газета для вас" — штотыднёвік

Паважаныя падпісчыкі і чытачы "Газеты для вас"! З 1 ліпеня г. г. ваша газета становіцца штотыднёвікам, гэта значыць, будзе выходзіць адзін раз на тыдзень — па суботах. Для таго, каб інтарэсы падпісчыкаў былі захаваны, "Газета для вас" пашырае свой аб'ём і будзе выдавацца на 8-мі старонках, а ў недалёкім будучым — на 12-ці старонках. Гэта дазволіць забяспечыць вас, дарагія чытачы, аператыўнай і аналітычнай інфармацыяй у больш поўным аб'ёме. Цікавых сустрэч на старонках "Газеты для вас"!

● НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Дрозды опустели — послы улетели...

*22 июня 1998 года шесть послов государств Европейского Союза — Великобритании, Германии, Франции, Италии и Греции, а также Соединенных Штатов Америки вылетели из Минска на самолете в свои страны на неопределенный срок для консультаций.*

Проблема ремонта коммуникаций в комплексе "Дрозды", где проживали семьи иностранцев, привела к политическому скандалу, невиданному в новейшей истории дипломатии. Из-за рубежа начался исход послов Беларуси обратно в Минск.

## Першы з'езд урачоў

*Два дні ў Мінску працаваў Першы з'езд урачоў Рэспублікі Беларусь.*

На ім гаварылася, што ў краіне працягвае скарачацца сярэдняя працягласць жыцця, расце смяротнасць людзей у працаздольным узросце, застаецца высокім узровень інваліднасці. Пагаршаюцца ўмовы жыцця людзей, матэрыяльная забяспечанасць, харчаванне. 600 тысяч беларусаў працуюць у шкодных умовах вытворчасці. Штогод шпіталізуецца кожны чацвёрты жыхар рэспублікі.

Першы з'езд урачоў прыняў Кодэкс урачэбнай этыкі.

## Дзе зарплата?

*Запазычанасць па зарплаце ў Беларусі перавысіла 1 трыльён рублёў.*

Як і ра ей, затрымліваюць зарплату пераважна ў калгасах і саўгасах. У прамысловасці нявыплачаная сума дасягнула 213,7 мільярда рублёў. Нязначная частка нявыплачаных заробкаў прыпадае на бюджэтную сферу. Агульная сума запазычанасці — 10,8% ад усяго фонду заработнай платы.

Дзіўна, што ў сельскай мясцовасці не маюць магчымасці выплаціць у тэрмін нават невялікія заробкі. У сярэднім па краіне зарплата калгаснікаў складае сёння 2 млн. 255 тысяч рублёў.

## На абарону Брэсцкай крэпасці

*Каля 65 тысяч долараў ЗША пералічылі Расія і Казахстан на рэканструкцыю мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой".*

Паўтара года таму дванаццаць краінаў СНД дамовіліся аб сумесным фінансаванні рамонтных і рэканструкцыйных работ у крэпасці. На працягу трох гадоў незалежныя дзяржавы абавязаліся пералічыць на гэтыя мэты 2 мільёны долараў.

## Чакаецца армейская рэформа

*У Савет Бяспекі РБ накіраваны прапановы Міністэрства абароны рэспублікі па праекту канцэпцыі новай ваеннай рэформы.*

У ведамстве, адказным за абарону краіны, лічаць, што пасля рэфармавання беларускае войска павінна складацца з 700 тысяч ваеннаслужачых і 15 тысяч служачых. Нагадаем, што на сённяшні момант у нашай арміі каля 85 тысяч ваеннаслужачых.

## Гарэлка падаражэла

*На гарэлачных цэнніках памяняліся лічбы. Канешне ж, у бок павышэння.*

Белая "вогненная вада" стала даражэйшай на 3 тысячы рублёў. Праўда, улічваючы дзеючы 5-працэнтны падатак на продаж спіртнога, павелічэнне цэн можа вар'іравацца ў залежнасці ад гатунку гарэлкі — ёсць "прыбаўка" ў 3.100, а ёсць і ў 3.300 рублёў. Нагадаем: апошні раз цана на гарэлку павышалася 12 сакавіка. Тэмпы някепскія.

*(Па старонках рэспубліканскіх газет).*

● 8 ЛІПЕНЯ — 10-ГОДДЗЕ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ІНВАЛІДАЎ

# Разам мы зможам зрабіць больш

***У любым грамадстве ёсць людзі абяздоленыя ці пакрыўджаныя лёсам. Мноства цяжкіх захворванняў і няшчасных выпадкаў штогод павялічваюць спісы непрацаздольных. Інваліднасць трэба разглядаць як рэальнасць, з якой неабходна лічыцца, як выпадак, які можа напаткаць кожнага. Пра гэту катэгорыю павінна клапаціцца ў першую чаргу дзяржава, грамадства ў цэлым.***



*НА ЗДЫМКУ: жыхар горада Івацэвічы, інвалід I групы, член Беларускага таварыства інвалідаў Віктар Фёдаравіч Міхінкевіч.*

Івацэвіцкая раённая арганізацыя была створана ў снежні 1988 года. Трэба заўважыць, што тады інваліды не вельмі верылі ў здольнасць яе нешта зрабіць карыснае для сваіх членаў. Аднак час паказаў адваротнае. Паступова яна мужнела, яе голас у абарону праў інвалідаў пачулі многія, у тым ліку і кіраўнікі. Праўда, для гэтага давялося шмат папрацаваць, правесці вялізную арганізатарскую і растлумачальную работу сярод тых жа інвалідаў.

Грашовы фонд арганізацыі складаецца ў асноўным з добраахвотных дабрачынных ахвяраванняў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў. Членскія ўзносы тут займаюць мізэрную долю. Напрыклад, сёлета ўзносы склалі 9.500.000 рублёў, а аказана матэрыяльнай дапамогі інвалідам на 42.400.000 рублёў. Іх пералічылі Івацэвіцкі філіял Прамбудбанка (кіраўнік З. А. Саук), ПМК-11 (начальнік Н. М. Стральчук), райвыканкам (старшыня П. Г. Жышка), райкам Беларускага Саюза Моладзі (сакратар Т. М. Петручэня), УКБ (начальнік П. В. Кронда), ААТ "Івацэвічдрэў" (генеральны дырэктар Б. М. Міхнюк), Баранавіцкая нафтабаза (дырэктар А. А. Смірноў), завод ЖБВ (дырэктар М. А. Куіс), РВА ЖКГ (дырэктар Л. М. Кавалевіч), раённы вузел электрасувязі (начальнік А. С. Дарагакупец), ДБУ-33 (начальнік М. І. Непачаловіч), КГФ "Лотас" (дырэктар А. М. Куратнік), ААТ "Касаўскае МВА" (генеральны дырэктар С. А. Філіповіч), Івацэвіцкая аўтазаправачная станцыя (начальнік М. С. Пераходзька) і многія іншыя.

> **ЛІЧБЫ І ФАКТЫ**
>
> ◆ *Членамі Беларускага таварыства інвалідаў з'яўляюцца каля 200 тысяч чалавек, што складае па розных ацэнках каля палавіны ўсіх інвалідаў, што жывуць у рэспубліцы.*
>
> ◆ *Івацэвіцкая раённая арганізацыя аб'ядноўвае ў сваіх радах 2020 чалавек; Івацэвіцкая гарадская — 757 чалавек, што складае 99 працэнтаў ад агульнай колькасці інвалідаў, што жывуць у райцэнтры.*

Райсавет арганізацыі кожную вясну дбае пра тое, каб інваліды змаглі атрымаць папік зямлі і пасадзіць бульбу. Сёлета дапамог у гэтай справе намеснік старшыні райвыканкама, дырэктар РВА ЖКГ Л. В. Кавалевіч. Калгас "Любішчыцы" (старшыня праўлення В. Л. Гарбачык) выдзеліў 8 гектараў зямлі, калгас "Івацэвіцкі" (старшыня С. А. Русакевіч) і райаграпрамтэхніка (кіраўнік А. А. Коктыш) забяспечылі сельскагаспадарчай тэхнікай, механізатары РВА ЖКГ закультывіравалі і зрабілі радкі. Ніхто грошай за падрыхтоўку зямельных участкаў не браў.

Многія інваліды жывуць у прыватных дамах і маюць патрэбу ў дровах. Тут на дапамогу прыходзіць кіраўнік адной з фірмаў райцэнтра В. А. Скурчык, даманаўскім інвалідам дапамагае мясцовы гандлёва-прамысловы камбінат.

У раённай арганізацыі 27 пярвічак. Дзякуючы падтрымцы кіраўніцтва раёна яна летась выйшла на першае месца ў вобласці.

*А. ЛАЎРАНЮК.*

# Вынікі конкурсу "Наш дом – Беларусь"

4 сакавіка г. г. суполка Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (ТБМ) г. Бярозы сумесна з "Газетай для вас" абвясціла конкурс "НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ", прысвечаны 80-м угодкам абвяшчэння 25 сакавіка 1918 г. незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).

Ад імя арганізатараў конкурсу хачу выказаць шчырую падзяку ўсім, хто прыняў удзел у конкурсе: Вользе Савуцінай і Пятру Валінскаму з Івацэвіцкага раёна; Алесю Касьяновічу, Івану Лагвіновічу і Алесю Корневу з Баранавічаў; сям'і Осіпавых, Людміле Глінскай, Наталлі Шыманскай і Нарынэ Хачатуран з Бярозы.

Безумоўна, як розніўся ўзрост удзельнікаў (ад школьнікаў да людзей сталага ўзросту), так і ўзровень творчасці, якога яны на сёння ўжо здолелі дасягнуць. Аўтары паказалі сваю глыбокую любоў да бацькоўскага краю, яго цудоўнай прыроды, багатых традыцыяў, а таксама заклапочанасць лёсам Радзімы. Радуе тое, што ўдзельнікі конкурсу не засяродзіліся ў сабе, а выліваюць свае пачуцці на паперу, нясуць іх людзям.

На думку журы конкурсу лепшымі прызнаны: "Я спяшаюся дадому..." і "Хто нашу еднасць пагубіў" **Алеся Корнева**; "Белая Русь" **Валянціны Осіпавай** і малюнак **Лілії Осіпавай**; вершы **Пятра Валінскага**; "Белы лебедзь" **Алеся Касьяновіча**. Але паўтаруся, мы ўдзячны ўсім удзельнікам конкурсу. Усе яны атрымаюць памятныя прызы. Спецыяльным прызам арганізатары вырашылі адзначыць вершы і малюнкі сямікласніцы Нарынэ Хачатуран — армянскай дзяўчынкі, для якой Беларусь стала другой Бацькаўшчынай, але яна не забылася і пра родную Армію.

Хацелася б пажадаць аўтарам далейшага працягу сваёй творчасці, поспехаў у ёй і плённага супрацоўніцтва з "Газетай для вас". Будзем спадзявацца, што агульнымі намаганнямі мы зробім "НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ у XXI стагоддзі" надзейным, прыгожым, утульным для ўсіх яго жыхароў; што ў нашай квітнеючай, заможнай Беларусі кожны грамадзянін з гонарам зможа сказаць: "БЕЛАРУСЬ — НАША БАЦЬКАЎШЧЫНА-МАЦІ", БЕЛАРУСЬ — НАШ ДОМ, НАШ ХРАМ І САБОР".

Конкурс "Наш дом — Беларусь" працягваецца.

*Сяржук РУСЕЦКІ, старшыня суполкі ТБМ імя Францішка Скарыны г. Бярозы.*



# Ізноў забастоўка

Незвычайная цішыня панавала 1 ліпеня на калгасным рынку Івацэвіч. Там, дзе яшчэ пару дзён таму назіраўся багаты выбар прамысловых вырабаў, абутку, дзіцячых цацак, у гэты дзень было пуста і няўтульна. Вялікая група прадпрымальнікаў, якая сабралася непадалёку ад уваходу на рынак, бурна выказвала сваё незадавальненне новаўвядзеннямі, якія ўсталёўваюць падатковыя органы. Аказваецца, цяпер, акрамя непамерных падаткаў, прадпрымальнік павінен прад'яўляць сертыфікат якасці на прамысловыя тавары. Непрад'яўленне караецца штрафам. Падобныя патрабаванні ставяць прадпрымальнікаў ў тупік, бо, вядома, сертыфікат якасці на прамысловыя тавары, якія купляюцца на рынках Польшчы, Расіі ці Турцыі, здабыць немагчыма.

Група жанчын, якая сышла з маршрутнага аўтобуса, расчаравана тапталася непадалёку. "Хто вінаваты?", "Няўжо дарэмна прыехалі?" — абураліся яны, гледзячы на пустыя прылаўкі. Іх спадзяванні, што прадпрымальнікі адступяць назад, былі дарэмнымі.

Як стала вядома, падобныя акцыі праходзіліся і па іншых рынках Беларусі.

*А. ГОРБАЧ.*

ПОСТ ДАІ

# Прычына адна — ліхацтва

З 16 па 26 чэрвеня ў Івацэвіцкім раёне праходзіла аперацыя «Скорасць». Падведзены яе вынікі. Так, выяўлены 1131 вадзіцель, які парушыў правілы дарожнага руху. З гэтай колькасці 12 чалавек былі ў нецвярозым стане і 501 перавысіў скорасць руху. Зарэгістравана адно дарожна-транспартнае здарэнне.

Так, на дарозе Брэст-Мінск ля павароткі на вёску Волька вадзіцель «Аудзі—100» Г. В. Шындзін, жыхар г. Масквы, рухаючыся з вялікай хуткасцю (звыш 120 км у гадзіну), выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся спярша з прычэпам легкавой аўтамашыны, а потым з іншамаркай «Мазда—626». Як вынік, вадзіцелі Г. В. Шындзін і С. В. Бурак, жыхар Мінска, з цяжкімі траўмамі трапілі ў бальніцу. Прычыны аварыі высвятляюцца. Вядома толькі, што абодва шафёры былі цвярозымі на той момант.

А з пачатку года ў раёне адбыліся 23 дарожна-транспартныя здарэнні, пры якіх 12 чалавек загінула і 20 – паранена. Прычына большасці гэтых аварый адна – ліхацтва за рулём аўтамабіля, грэбаванне правіламі дарожнага руху.

*А. АРЦЁМЧЫК, камандзір узвода дарожна-патрульнай службы райаддзела міліцыі, капітан міліцыі.*

СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ

*От всей души поздравляем с 45-летием уважаемого Анатолия Михайловича БЕЛЕВИЧА из г. Ивацевичи! Желаем здоровья, счастья, успехов в работе, удачи в жизни, благополучия в семье.*

*Уходят годы... Как не жаль —*
*Нам никогда их не вернуть,*
*И навещает нас печаль,*
*И время, кажется, взгрустнуть.*
*Но не погас ведь жизни свет*
*И завтра будет новый день.*
*Тебе желаем долгих лет*
*И пусть с чела исчезнет тень.*

*Твои друзья.*

СТОП-КАДР

*Если рыба в озере есть, значит надо ее съесть...*

*Фото А. ГАНЧУКА.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна ў мінулыя выхадныя (у тысячах руб. за адзін кілаграм) былі наступныя:*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза |
|---|---|---|---|
| Свініна | 110—125 | 100—200 | 130—140 |
| Сала салёнае | 100 | 95 —100 | 90—100 |
| Алей (1 л) | 75 | 65—95 | 75—90 |
| Яйкі (1 дзесятак) | 30 | 35 | 30 |
| Малако (3 л) | 18 | 21 | 20 |
| Тварог | 24 | 30 | 30 |
| Агуркі | 25—35 | 25—30 | 35 |
| Цыбуля рэпч. | 62 | 58 | 58 |
| Капуста | 18—20 | 15—18 | 15—18 |
| Бульба | 25 | 20—30 | 35 |
| Трускалкі | 45 | 45 | — |
| Чарэшня | 50 | 60 | 50 |
| Лімоны | 70 | 75 | 77 |
| Чарніцы | 30 | 35 | 30 |
| Рыс | 23 | 26 | 35 |
| Яблыкі | 90 | 80—90 | — |
| Масла смет. | 80 | 90 | 85 |
| Апельсіны | 55 | 45 | 56 |
| Памідоры | 70 | 60 | 50 |
| Проса | 18,5 | 22 | 24 |
| Макар. выраб. | 18—20 | 23 | 30 |
| Грэчка | 24 | 33 | 30 |
| Цукар | 31 | 33 | 33 |
| Мука | 17—18 | 18 | 18—20 |
| Бананы | 65—70 | 65 | 77 |
| Мёд | 160 | 200 | 150 |

## ВАЛЮТА НА «ЧОРНЫМ» РЫНКУ

| | КУПЛЯ | ПРОДАЖ | КУПЛЯ | ПРОДАЖ | КУПЛЯ | ПРОДАЖ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 58 | 62 | 58 | 62 | 58 | 62 |
| 1 дойчмарка | 28 | 30 | 28 | 30 | 28 | 30 |
| 1 рубель Расіі | 8,5 | 9 | 8,5 | 9 | 8,5 | 9 |

КРЫМІНАЛ

# Украў, прадаў, укалоўся...

Супрацоўнікі аддзела па барацьбе з наркаманіяй Баранавіцкага ГРАУС затрымалі і змясцілі пад варту 22-гадовага К. — жыхара горада, нідзе не працуючага. У яго кватэры ў дарожнай сумцы выяўлены крадзеныя рэчы.

Хлопец у ходзе следства прызнаўся, што на яго рахунку 15 крадзяжоў — выцягваў чужыя рэчы з аўтамабіляў. Мэта была адна — крадзенае прадаць, а на атрыманыя грошы набыць наркотык (макавую саломку).

Пасля заканчэння следства справа К. будзе перададзена ў народны суд, які, зразумела, забяспечыць хлопца казённым дахам над галавой.

*(Наш кар.).*

ЗДАРЭННІ

# Равеснік рэвалюцыі захацеў на нябёсы

Сярод белага дня ў 15 гадзінаў загарэўся дом у вёсцы Манцюты Івацэвіцкага раёна. Быценскія пажарныя, якіх выклікалі па тэлефоне суседзі, патушылі пажар і знайшлі абгарэлы труп гаспадара дома Іосіфа С., 1917 года нараджэння.

Папярэдняя версія такая: нябожчык сам падпаліў хату, бо адразу гарэлі чатыры вуглы пакоя, аблітыя нейкай гаручай вадкасцю. Па расказах суседзяў, гаспадар даўно грازіўся звесці рахункі з жыццём: спаліць хату і згарэць у ёй самому. Каб нічога нікому не дасталося.

Вядзецца следства, якое высвеціць поўную карціну вясковай трагедыі.

*Л. САШЫН.*

ОТ ТАМАРЫ ГЛОБА

# ГОРОСКОП 6.07-12.07

**ОВЕН (21.3 - 20.4)**
Начало недели потребует срочного разрешения назревших дел. Обратите особое внимание на отношения с окружающими вас людьми. Не нарывайтесь на конфликты. Конец недели хорошо провести дома.

**ТЕЛЕЦ (21.4 - 20.5)**
Вы сможете получить хорошее предложение на работе. Последуйте ему и результаты вскоре будут налицо. Прислушайтесь к советам друзей. Не разбрасывайтесь деньгами. Выходные хорошо провести в кругу друзей.

**БЛИЗНЕЦЫ (21.5 - 21.6)**
Ожидайте известия от близких людей, придет письмо или появятся гости. Дети принесут много приятных необычных сюрпризов. Будьте доброжелательны и благосклонны к своим жизненным оппонентам. Поймите их мотивы, это поможет вам противостоять им.

**РАК (22.6 - 22.7)**
Неделя может оказаться интересной и содержательной. Спешите выполнить все дела к среде, чтобы в конце недели получился полноценный отдых. И он может быть очень интересным. Не расставайтесь со старыми идеями, в конце недели может появиться возможность их реализации.

**ЛЕВ (23.7 - 23.8)**
Неделя удачна для заключения различных финансовых сделок, подписания финансовых договоров, намеченных ранее. Можно делать покупки. Но не спешите верить всему, что услышите на этой неделе, не делайте опрометчивых поступков. Выходные посвятите отдыху, восстановлению сил, очистке организма.

**ДЕВА (24.8 - 23.9)**
Неделя благоприятна для творческой деятельности. Желательно выполнить все свои обещания и не давать новых. Можно запланировать путешествие на первую половину недели, а вторую половину недели желательно провести дома или в кругу друзей.

**ВЕСЫ (24.9 - 23.10)**
Неделя не благоприятствует заключению финансовых сделок, контрактов, договоров и других соглашений. Вторник и среда — дни закладки фундамента для новых дел. Сны среды и четверга несут важную информацию.

**СКОРПИОН (24.10 - 22.11)**
Возможны приход гостей, кратковременная поездка, командировка. Неделя интеллектуальной активности, время налаживания контактов. Возможны некоторые осложнения в общении с противоположным полом. Не доверяйте злым языкам.

**СТРЕЛЕЦ (23.11 - 21.12)**
Двойственная неделя: в ней и успех, и неудача. Примите ее такой, какой она окажется, и не грешите. Можно запланировать на первую половину недели путешествие или экскурсию, а конец недели провести в кругу друзей.

**КОЗЕРОГ (22.12 - 20.1)**
Возможны проблемы в общении. Избегайте критичности и споров. Не рекомендуются интеллектуальные виды деятельности. Неудачное время для покупок. Время отдыха и самосозерцания. Возможны проблемы со здоровьем.

**ВОДОЛЕЙ (21.1 - 19.2)**
Будьте осторожны со словами, не разбрасывайте направо и налево обещания — вам придется их обязательно выполнять. Старайтесь поменьше ходить, чтобы не перегружать ноги. Ждите приятных новостей и приобретений.

**РЫБЫ (20.2 - 20.3)**
Неделя творчества и вдохновения. Время добрых дел и поступков. Спешите выполнить все свои обещания и пока не давайте новых. В середине недели вам надо быть особенно внимательным к пище. Также в это время обратите внимание на нагрузку сердечно-сосудистого аппарата.



Калектыў Любішчыцкай сярэдняй школы выказвае глыбокае спачуванне рабочаму Пытляку Васілю Мікалаевічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці **БАЦЬКІ.**

# Неблагоприятные лунные дни в июле

**Духовно тяжелые "сатанинские" дни:**

8 июля с 20 ч. 34 мин. до 9 июля 21 ч. 32 мин.;
23 июля с 5 ч. 08 мин. до 23 июля 16 ч. 44 мин.;
31 июля с 13 ч. 55 мин. до 1 августа 15 ч. 01 мин.

**Физически тяжелые дни:**

11 июля с 23 ч. 02 мин. до 12 июля 23 ч. 38 мин.;
17 июля с 1 ч. 19 мин. до 18 июля 1 ч. 44 мин.;
20 июля с 2 ч. 45 мин. до 21 июля 3 ч. 26 мин.;
26 июля с 8 ч. 24 мин. до 27 июля 9 ч. 31 мин.

**Дни, связанные с перерасходом энергии:**

4 июля с 16 ч. 10 мин. до 5 июля 17 ч. 18 мин.;
7 июля с 19 ч. 31 мин. до 8 июля 20 ч. 34 мин.;
12 июля с 23 ч. 38 мин. до 15 июля 0 ч. 32 мин.;
19 июля с 2 ч. 13 мин. до 20 июля 2 ч. 45 мин.;
30 июля с 12 ч. 49 мин. до 31 июля 13 ч. 55 мин.

**Фазы Луны**

Первая четверть 1.07 в 21 ч. 43 мин.;
полнолуние 9.07 в 19 ч. 01 мин.;
последняя четверть 16.07 в 18 ч. 13 мин.;
новолуние 23.07 в 16 ч. 44 мин.;
первая четверть 31.07 в 15 ч. 05 мин.

**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць адзін раз на тыдзень: у суботу.**
**Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 2 друк. аркушы.**
*Падпісана да друку 3 ліпеня ў 9.00.*

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Леніна, 62, 225250, г. Івацэвічы.
Тэлефон: 8 ( 245) 2-12-29.



*Тыраж 2000. Заказ 1948.*